**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 28 (796) 9 ліпеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




*Фота Ул. Скрабатуна.*

**3 ліпеня Глыбокае ўрачыста і з размахам адзначыла Дзень вызвалення горада і Беларусі ад нямецкіх акупантаў.**



ISSN 2077-8023



Пастаўскі раён

# Эмоцыі і песні на стадыёне

■ Кастусь Александровіч

**Як бы ні цяжка цяпер складвалася жыццё, але ў паўсядзённых буднях павінна быць падстава для радасных падзей.**

Вось і ў Паставах днямі ў сапраўднае свята культуры і спорту ператварыўся Дзень папулярнага тэлеканала АНТ. На ўтульны цэнтральны гарадскі стадыён з нагоды Года моладзі прыйшло некалькі тысяч чалавек. У цяньку працавала выязное кафэ, а прадпрымальнікі арганізавалі Горад забаў для дзяцей з надуўнымі горкамі, атракцыёнамі. Галоўнай падзеяй стаў спачатку таварыскі футбольны матч каманд "ПМЦ-Паставы" і зборнай АНТ-зорак эстрады Беларусі. Гэта гульня была відовішчнай і баявой, бо мінчане прывезлі шэраг спрактыкаваных гульцоў і ў складзе пастаўчан былі футбалісты з вопытам гульняў у чэмпіянаце краіны. Пасля безвыніковага першага тайма гасцям удалося выйсці наперад, аднак у канцоўцы пры гарачай падтрымцы сваіх гледачоў пастаўчане адыграліся, а на апошняй мінуце вырвалі валявую перамогу з лікам 2:1. Пасля заканчэння матча з цікавай канцэртнай праграмай выступілі вядомыя беларускія артысты, якія таксама гулялі на футбольным полі. Вельмі цёпла сустрэла публіка выступленні спевакоў, аўтараў-выканаўцаў Анатоля Длускага, Альберта Скарахода, Дзмітрыя Смольскага, вядучага тэлеканала Сяргея Собаля. Усеагульным любімцам стаў папулярны спявак і музыкант Дзядзя Ваня, якога доўга не хацелі адпускаць са стадыёна. Капітан каманды АНТ, палітычны аглядальнік Тэнгіз Думбадзе падзякаваў за цёплы прыём і паабяцаў, што мінчане ў Паставы яшчэ прыедуць з канцэртам і каб узяць рэванш у новым матчы.

Лёзненскі раён

# Другое жыццё школы

■ Станіслаў Раманчук.

**З-за складанай дэмаграфічнай сітуацыі штогод па краіне закрываюцца дзясяткі малакамплектных школ, а на месцах проста не ведаюць, што далей рабіць з многімі яшчэ дабротнымі будынкамі.**

Падобны лёс напаткаў некалькі гадоў назад і Чарніцкую школу-інтэрнат для дзяцей-сірот, што ў Лёзненскім раёне, бо патрэбнасць у ёй адпала. На шчасце, гэты будынак спадабаўся абласному дзіцячаму клінічнаму цэнтру, а кіраўніцтва вобласці бязвыплатна перадало яго з усёй маёмасцю. Медыкі задумалі стварыць тут свой спецыялізаваны аздараўленчы лагер і адначасова прымаць адпачываць і мясцовых дзяцей. У сасновым бары закіпела праца па рамонце памяшканняў, на якую пайшлі выключна заробленыя пазабюджэтныя сродкі. У выніку да сёлетняга летняга сезону лагер "Вясёлка" быў поўнасцю гатовы. Ён разлічаны кожную змену прымаць да ста хлопчыкаў і дзяўчынак. Зразумела, што аздараўленне дзетак тут арганізавана па самых высокіх стандартах, але найперш у прыгожай мясцовасці дзеці большасць вольнага часу праводзяць на свежым паветры на спартыўных пляцоўках. Для іх арганізавалі пяціразовае каларыйнае харчаванне, абсталявалі прасторныя светлыя спальныя пакоі. Цікавыя мерапрыемствы ладзяцца таксама ў абноўленай актавай зале і ў бібліятэцы. Адпачываючыя ладзяць дыскатэкі, бо ёсць неабходнае музычнае абсталяванне, а сваю энергію моладзі можна патраціць і ў трэнажорнай зале, тэнісным цэнтры.

Гарадоцкі раён

# Шэкспіру такое не снілася

■ Чэслаў Якубовіч.

**Класічныя любоўныя трохвугольнікі і іншыя нежартоўныя калізіі з-за розных праблем з каханнем ужо столькі разоў апісваліся майстрамі сусветнай літаратуры, аднак жыццё працягвае падкідваць новыя сюжэты.**

Вось і ў Гарадоцкім раёне сёлета летам таксама бушавалі падобныя эмоцыі з элементамі крыміналу. Спачатку ў райбальніцу прыйшоў 24-гадовы хлопец памірыцца са сваёй былой сужыцелькай, старэйшай за яго на 13 гадоў і якой адной прыходзіцца гадаваць чатырох дзяцей. У іх адносіны потым разладзіліся, яны моцна пасварыліся і болей не сустракаліся. Калі жанчына не стала мірыцца, пакрыўджаны ўхажор паспрабаваў яе задушыць, але задуму да канца яму здзейсніць не ўдалося. Пазней малады чалавек спрабаваў яшчэ прабрацца да каханкі дамоў, пагражаў сябе і яе забіць, калі яны зноў не будуць разам. Дарэчы, вены ён зімой спрабаваў рэзаць і ў выніку жыхарка райцэнтра напісала нарэшце заяву ў міліцыю. За такую агрэсію занадта буйнаму кавалеру пагражае да 2-х гадоў турмы. Аднак за краты ён можа патрапіць іншым, калі экспертыза прызнае хлопца псіхічна не надта здаровым, тады таксама яго ізалююць ад грамадства. Яшчэ адзін мясцовы жыхар, толькі ўжо пенсійнага ўзросту, некалькі гадоў назад у суседняй Расіі пазнаёміўся з жанчынай у гадах. Яны зблізіліся, сталі жыць разам, а потым расіянка аддала перавагу іншаму вяскоўцу. Падчас адной з вясковых выпівак абодва мужчыны сталі высвятляць адносіны ў бойцы. Жанчына вырашыла заступіцца за новага ўхажора і ўдарамі рыдлёўкай па галаве ледзь не адправіла былога сужыцеля ў іншы свет, за што можа сама адправіцца ў турму.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 9.07.15 | | | | Пятніца 10.07.15 | | | | Субота 11.07.15 | | | | Нядзеля 12.07.15 | | | | Пан. 13.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +18 | +18 | +20 | +19 | +15 | +13 | +14 | +14 | +13 | +13 | +18 | +18 | +14 | +15 | +17 | +16 | +13 | +14 | +17 |
| Ціск | 738 | 739 | 739 | 739 | 740 | 738 | 738 | 737 | 737 | 737 | 739 | 739 | 740 | 741 | 740 | 740 | 741 | 742 | 742 |
| Вільготнасць | 4 | 2 | 3 | 4 | 5 | 8 | 8 | 5 | 5 | 6 | 6 | 2 | 3 | 6 | 6 | 4 | 1 | 3 | 3 |
| Вецер | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд | Пд-З | Пд-З | З | З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | З | З | Пд-З | З | З | З |
| м/сек | 82 | 71 | 64 | 68 | 84 | 81 | 83 | 87 | 89 | 95 | 64 | 73 | 90 | 86 | 78 | 80 | 82 | 88 | 75 |

# Аб самым надзённым

## УСЛЕД ЗА ПРАМЫСЛОВАСЦЮ НЯПРОСТЫ ГОД ЧАКАЕ СЁЛЕТА І АЙЧЫННУЮ СЕЛЬСКУЮ ГАСПАДАРКУ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Пакуль жа наша дзяржава ўзяла паўзу і летась зноў адтэрмінавала пагашэнне даўгоў гаспадарак па лізінгу, па крэдытах на мадэрнізацыю ферм і па іншых праектах. Аднак гэтага будзе яўна мала, бо прэстыж працы на зямлі крайне малы. Зараз паўсюдна глабальная праблема знайсці і ўгаварыць узначаліць гаспадарку талковага, ініцыятыўнага кіраўніка.**

У ніводнай сферы народнай гаспадаркі Беларусі няма цяпер столькі парадоксаў і супярэчнасцей, як у айчынным аграпрамысловым комплексе. З аднаго боку гэта галіна змагла прынесці летась краіне 6 млрд. долараў выручкі ад экспарту прадуктаў харчавання за мяжой. Аднак і ўклала сюды дзяржава толькі за апошнія 10 гадоў велізарныя інвестыцыі ў памеры 45 млрд. USD. Акрамя Дзяржаўнай праграмы адраджэння і развіцця вёскі на 2005-2010 гады яшчэ раней у пачатку новага стагоддзя таксама значныя капітальныя ўкладанні пайшлі і на Праграму ўдасканалення АПК на 2001-2005 гады.

У выніку беларусам забяспечылі поўнасцю харчовую бяспеку, краіна нават і палову атрымананага мяса з малаком не з'ядае, колькі вырабляе. Праўда, беларускія прадукты харчавання – даволі дарагія ў параўнанні з цэнамі ў суседніх дзяржавах, дзе няма калгаснага ладу гаспадарання на зямлі. І ўжо на дзяржаўным узроўні ўсё часцей гавораць, што гэта важная галіна эканомікі, айчынная сельская гаспадарка не дае той паўнацэннай аддачы, на якую разлічвалі. За некалькі тыдняў да пачатку ўборкі сёлета зерневых і зернебабовых у дзяржаўных СМІ забілі трывогу, што можа паўтарыцца пасля заканчэння жніва неўраджайнага 1999 год. Таксама з першага ўкосу траў сёлета атрымалі травяністых кармоў на 5 % меней, чым год назад.

Аднак чаго тут здзіўляцца, паколькі з правераных вясной 150 гаспадарак спецыялісты Камітэта дзяржкантролю ў больш чым палове з іх выявілі, што яравая сяўба вялася зусім без фосфарных угнаенняў. Такія грубыя ўпушчэнні тэхналогіі ў выніку прыводзяць да таго, што, як і раней, сотні гаспадарак атрымоўваюць гадамі ўраджайнасць меней 20, а то і 15 цэнтнераў з гектара. Найбольш такіх "рэкардсменаў" фіксуецца ў Віцебскай і Магілёўскай абласцях, дзе і бульбы атрымоўваюць столькі цэнтнераў, колькі збожжа з гектара лепшыя беларускія сельгаспрадпрыемствы.

У выніку мы дажыліся да таго, што пры велізарнай дапамозе і апецы дзяржавы нерэфармаваны калгасны лад у Беларусі стаў яўным тормазам для развіцця краіны ў XXI стагоддзі. Справа ў тым, што даўгі айчынных гаспадарак зараз перавышаюць велізарную суму 80 трыльёнаў рублёў, з якіх 10 трлн. – ужо пратэрмінаваныя. Як гаротныя гаспадаркі будуць пагашаць свае запазычанасці, ніхто не ведае. Асаблівa трывожная абстаноўка ў гэтай сферы ў нас на Віцебшчыне, бо ўжо болей 80 % існуючых калгасаў, розных там ААТ – фактычна банкруты са стратамі кожны па 50 і болей млрд. рублёў. Сёлета ў Прыдзвінні ўжо месяцамі не могуць разлічыцца з людзьмі за працу на палях і фермах.

З адпаведным сумным настроем наёмных вяскоўцаў пра якую высокую прадукцыйнасць працы можна гаварыць? Айчынную сельскую гаспадарку таксама падкасіла нядаўняя эпідэмія афрыканскай чумы свіней. Але пакуль большасць існуючых праблем у нас тлумачаць складанымі прыродна-кліматычнымі ўмовамі: то засушыла, то затапіла, альбо вымерзла. Сапраўды, прыродны фактар сур'ёзны, але ж у кожным раёне ёсць перадавая гаспадарка з ураджайнасцю па 40-50 ц/га і надоямі на карову пад 5 тысяч літраў, а вось у яе суседзяў надоі на ўзроўні казы, а на хлебнай ніве паказчыкі ў 2-3 разы меншыя ў аднолькавых кліматычных умовах.

Пра гэта, дарэчы, шмат гаварылася на нядаўняй пашыранай калегіі штаба галіны – Мінсельгасхарча Беларусі. Спецыялісты зноў шмат казалі і аб аптымізацыі структур пасяўных плошчаў, і аб асваенні новых тэхналогій вытворчасці, і аб канцэнтрацыі матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў на важнейшых накірунках АПК. Іншая справа, што правільныя рэчы гаварыць можна, але калі з фінансамі "поўная труба", то зноў аказваемся ля разбітага карыта. Невыпадкова пад кіраўніцтвам былога прэм'ер-міністра М. Мясніковіча стварылі міжведамасную рабочую групу па вырашэнні праблемных пытанняў у АПК.

Пакуль жа наша дзяржава ўзяла паўзу і летась зноў адтэрмінавала пагашэнне даўгоў гаспадарак па лізінгу, па крэдытах на мадэрнізацыю ферм і па іншых праектах. Аднак гэтага будзе яўна мала, бо прэстыж працы на зямлі крайне малы. Зараз паўсюдна глабальная праблема знайсці і ўгаварыць узначаліць гаспадарку талковага, ініцыятыўнага кіраўніка. У Беларусі большасць разумных людзей ведаюць, што наша галоўная праблема ў сельскай гаспадарцы – адсутнасць сапраўднага самастойнага гаспадара на канкрэтным участку зямлі.

І пакуль гэта не ўсвядомім, будзем па-ранейшаму бачыць толькі праблемы ў дзейнасці АПК. Прыйшлося ўжо адмовіцца не ад добрага жыцця і ад правядзення пампезных рэспубліканскіх "Дажынак". У гэтым годзе нарыхтоўка кармоў з першага ўкосу па краіне вялася тры тыдні, а то і болей месяца. Пры гэтым фермерскія гаспадаркі ў Еўропе ўкладваюцца ў аптымальныя тэрміны гэтых работ – 10-12 дзён і потым лепш кормяць сваіх рагуль і бычкоў, маюць значна большыя надоі і прывагі. Пакуль, на жаль, у Беларусі не атрымоўваецца адрадзіць вёску пры існуючых сотнях аграгарадкоў і адны праблемы з далейшым развіццём АПК, каб ён стаў надзейным фундаментам для ўмацавання ўсёй эканомікі.

## Дзень за днём

**У Беларусі пад прэзідэнцкія выбары не будуць друкаваць грошы і павышаць зарплаты. На першы тур такога галасавання пойдзе з дзяржбюджэту 181 млрд. рублёў. Нават у Мінску зменшылася колькасць свабодных працоўных вакансій. Па Беларусі колькасць зарэгістраваных беспрацоўных падвоілася. Знялі з прафілактычнага ўліку за год яшчэ 257 наркаманаў, якія памерлі ва ўзросце 20-40 гадоў. Не толькі на дзяржаўныя, але і на сямейныя святы дазволілі беларусам вывешваць сцяг Беларусі. Тэрміны ўстаноўкі тэрміналаў для гандляроў на рынках адклалі да новага года.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Міністры абароны 28 краін-членаў НАТО на сустрэчы ў Бруселі дамовіліся аб самым буйным узмацненні войск кантыгента ЗША ва Усходняй Еўропе з часоў СССР.

**Галандыя.** Урад краіны пачаў перамовы ў свеце для арганізацыі міжнароднага трыбунала альбо міжнароднага суда ААН над вінаватымі ў знішчэнні над Данецкам авіярэйса MH17.

**Арменія.** Пасля жорсткага разгону мітынгу пратэсту супраць павышэння тарыфаў на электраэнергію на 16 % па патрабаванні РФ у краіне пачаўся востры палітычны крызіс.

**ЗША.** Вядомы фінансіст Д. Сорас заявіў, што за 3 гады нізкіх цэн на нафту эканоміка Расіі рухне, ужо праз год закончацца сродкі стабфонду Пуціна, рускіх чакае інфляцыя 25 %.

**Расія.** У большасці банкаў краіны сталі адчувальна расці страты і даўгі, амаль палову капіталу страцілі "Рускі стандарт", "Усходні экспрэс", "Рэнесанс капітал" і іншыя.

**Венгрыя.** Пасля таго, як у краіну ўехала сёлета яшчэ больш 60 тысяч нелегальных мігрантаў, урад адмовіўся выконваць міграцыйныя патрабаванні Еўрасаюза.

**Францыя**. Аднаго забілі і некалькі чалавек паранілі двое тэрарыстаў-ісламістаў, якія напалі на завод звадкаванага газу пад Ліёнам і мелі планы прадпрыемства ўзарваць.

**Германія.** Былы расійскі віцэ-прэм'ер А. Кох папярэдзіў, што Пуцін хоча правіць бясконца, Украіну ён лічыць сваёй калоніяй, з ім дабіцца кампрамісу Захаду немагчыма.

**Украіна.** Адзін з главароў баевікоў "ДНР" А. Захарчанка прыгразіў Кіеву вялікай вайной і паабяцаў вызваліць усю тэрыторыю Данецкай вобласці ад украінскіх войск.

**Румынія.** Жыхароў краіны і таксама Польшчы абурыла, што Савет бяспекі РФ назваў іх тэрыторыі патэнцыйнымі стратэгічнымі кропкамі для ўдараў балістычных ракет.

**Польшча.** Большасць палякаў рашуча падтрымалі рашэнне ЕС прадоўжыць на паўгода санкцыі супраць Расіі, але палова апытаных лічаць падобныя санкцыі занадта мяккімі.

**Казахстан.** Сусветная гандлёвая арганізацыя пасля 19 гадоў перамоў зацвердзіла прыняць краіну 162-м па ліку паўнапраўным членам СГА ў снежні гэтага года.

**Кітай.** Шок у свеце і масавыя пратэсты выклікаў мясны фестываль у горадзе Юлін, дзе нажывую здзерлі скуру і з'елі 10 тысяч сабак па старажытнай кітайскай традыцыі.

**Англія.** Для правядзення рамонту рэзідэнцыі каралеўскай сям'і прапанавалі пакінуць Букінгемскі палац і на год перасяліцца пажыць у Віндзорскім замку.

**Карэя.** Кампанія LG распрацавала навінку - смартфон для аматараў музыкі Band Plau з 1-ватным дынамікам і навушнікамі палепшанага гукавога балансу, 16 Гбайт памяці.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Услед за адстаўкай начальніка ракетных войск і артылерыі УС Беларусі А. Лукашэнка звольніў па сямейных абставінах дзяржсакратара Савета бяспекі А. Мяжуева.

**Смалявічы.** У нацыянальным аэрапорце Мінск і потым у абласных аэрапортах правялі вучэнні на выпадак пранікнення ў Беларусь небяспечнага каранавірусу MERS.

**Мінск.** Міністр фінансаў У. Амарын паведаміў, што Беларусь бярэ чарговы крэдыт у Расіі на абслугоўванне плацяжоў па ранейшых займах РФ, але суму крэдыту не назваў.

**Маладзечна.** Пасля затрымкі заробкаў за красавік і двухдзённай забастоўкі работнікам завода металаканструкцый затрымалі і выдачу майскай зарплаты з-за праблем збыту ў РФ.

**Магілёў.** Старэйшае прадпрыемства горада "Строммашына" па некалькі месяцаў затрымлівае зарплату работнікам, прадала будынак дырэкцыі і ідзе да банкруцтва.

**Мінск.** Былы міністр працы Беларусі А. Сасноў папярэдзіў пра далейшы рост беспрацоўя з-за эканамічных праблем і адтоку назад на радзіму многіх гастарбайтараў з Расіі.

**Гродна.** Наведвальнік аднаго з рэстаранаў горада на падпітку заснуў прама за столікам, а калі прачнуўся, то недалічыўся 15 млн. рублёў, злодзея знайшлі па камеры відэаназірання.

**Кобрын.** Да 4-х год турмы пагражае двум настаўніцам з Драгічынскага раёна, якія не заўважылі, як у аквапарку пачала тапіцца, трапіла ў кому і памерла 7-гадовая школьніца.

**Мінск**. З-за санкцый і ў 2016 годзе, як заявіў эканаміст Л. Злотнікаў, эканамічная сітуацыя ў Расіі будзе пагаршацца, не стане лепш і для нас, попыту на нашы тавары ў РФ не будзе.

**Трасцянец.** Паблізу сталіцы на мітынгу-рэквіеме адкрылі аднайменны мемарыяльны комплекс на месцы, дзе ў вайну быў чацвёрты ў свеце канцлагер па колькасці ахвяр.

**Магілёў.** Следства выявіла, што банда "чорных рыэлтараў", якая забіла 6 грамадзян пасля продажы імі жылля, выкапала магілы на могілках яшчэ для двух будучых сваіх ахвяр.

**Чавусы.** Да 10 тысяч гледачоў і 20 рок-груп павінен сабраць Міжнародны рачны музычны фестываль "ДняПроРок" на беразе водасховішча каля ракі Днепр і трасы на Магілёў.

**Мінск.** Канцэрн "Белдзяржхарчпрам" вырашыў зрабіць ААТ "Мінск Крышталь" упраўляючай кампаніяй новага холдынга па вырабу алкагольных напояў.

**Гродна.** У адной з бальніц горада памёр ад атрыманых траўм мужчына, якога тыдзень назад збіў на дарозе паблізу маста праз Нёман 16-гадовы веласіпедыст.

**Барысаў.** Падчас следчага эксперыменту затрымалі чыноўніка за хабар, ён узяў 10 мяшкоў цэменту за станоўчае вырашэнне пытання праходжання тэхагляду няспраўнай машыны.

# Праект указа аб «заробках у канвертах» будзе ўнесены ва ўрад у найбліжэйшы час




■ БелТА

**Праект указа «Аб мерах па прадухіленні выплаты ўзнагароджання за працу з ухіленнем ад выплаты падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў» будзе ўнесены ва ўрад у найбліжэйшы час.**

Аб гэтым паведамілі ў аддзеле інфармацыйна-растлумачальнай працы Міністэрства па падатках і зборах.

«Зараз у праект указа МПЗ уносяцца асобныя непрынцыповыя карэкціроўкі. У першай дэкадзе ліпеня праект указа будзе ўнесены на разгляд ва ўрад», — сказалі спецыялісты.

Раней праект указа быў вынесены на грамадскае абмеркаванне, тэкст указа размешчаны на афіцыйным сайце МПЗ.

Як растлумачылі спецыялісты, у ходзе абмеркавання ў МПЗ паступалі ў асноўным пытанні, якія тычацца парадку падаткаабкладання неадлюстраваных у бухгалтарскім уліку даходаў і абмену інфармацыяй паміж кантрольнымі органамі. Акрамя таго, некаторыя прапановы тычыліся парадку афармлення працоўных адносін і прадастаўлення звестак у органы Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва аб заключаных з грамадзянамі працоўных і грамадзянска-прававых дамовах.

Згодна з праектам указа, калі грамадзянін паведаміць, што атрымлівае заробак у канверце, і (або) прадаставіць дакументы, якія сведчаць аб прыкметах такога парушэння, то плаціць падаходны падатак з шэрых сум яму ўжо не давядзецца. Яшчэ адна ўмова падатковай «амністыі» - пісьмовая згода на дачу паказанняў сведак.

Праектам указа прадугледжана, што пра факты атрымання заробку ў канверце можна будзе паведаміць у падатковыя органы, ФСАН і яго тэрытарыяльныя органы, а таксама ў «Белдзяржстрах». Сюды ж неабходна будзе даць згоду на дачу паказанняў сведак.

У межах сваёй кампетэнцыі падатквікі, ФСАН, «Белдзяржстрах» будуць прымаць меры для пацвярджэння факту выплаты зарплаты ў канверце. Калі спатрэбяцца дадатковыя праверкі, то, у адпаведнасці з праектам указа, гэтым зоймуцца органы фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю і Міністэрства ўнутраных спраў.

Акрамя таго, у дакуменце прапісана адказнасць працадаўцаў, віна якіх будзе даказаная. Прадугледжаны штрафы ад 1 да 100 базавых велічынь (цяпер адна б.в. складае Br180 тыс.). За паўторнае парушэнне на працягу года штрафы падвояцца.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З пачатку года будаўнікі вобласці зноў меней усіх у Беларусі пабудавалі жылля, узведзена пакуль 1260 новых кватэр, альбо толькі чвэрць ад гадавога задання.

**Талачын.** Да прадстаячых абласных "Дажынак-2015" у райцэнтры абновяць каля 90 аб'ектаў і плошчу, адным з першых завяршылі рамонт гарадскога Дома культуры.

**Сянно.** Вечарам каля вёскі Леснікова патанулі трое дзяцей, дзве сястры і іх стрыечны брат ва ўзросце 9-12 гадоў, калі каталіся па вадаёме на саматробным плыце.

**Лепель.** Да 100 тон у месяц давёў летам мясцовы МКК выпуск свайго натуральнага марожанага 21 найменняў без кансервантаў і стабілізатараў, яно мае вялікі попыт.

**Полацк.** Праверка Камітэта дзяржкантролю выявіла, што мясцовы віназавод стаў стратным з-за многіх неабгрунтавана высокіх аплат пасрэднікам за цукар, сокі, тару, сыравіну.

**Шуміліна.** Толькі ў канцы чэрвеня дырэкцыя мясцовага райаграсервіса змагла па частках і натурплатай выплаціць сваім работнікам зарплату за працу яшчэ ў сакавіку.

**Віцебск.** У чэрвені мясцовы пладаагародны камбінат адгрузіў 80 фур сваіх кансерваў спажыўцам у Расіі і ў 2 разы скараціў складскія запасы, перайшоў на працу ў 3 змены.

**Орша.** На трасе Брэст-Масква міліцыя затрымала аўтамабіль з буйной партыяй 1900 літраў кантрабанднай расійскай гарэлкі, алкаголь на суму 285 мільёнаў рублёў канфіскавалі.

**Мёры**. На маляўнічым паўвостраве мясцовага возера прайшоў Міжнародны фестываль "Еўрапейскія прысмакі" з майстар-класамі кулінараў Францыі, Латвіі, Беларусі.

**Лепель.** Пасля абеду на трасе Мінск-Віцебск 26-гадовы вадзіцель іншамаркі Рэно-кліо збіў насмерць 60-гадовага пастуха, які перабягаў дарогу, каб адагнаць карову.

**Глыбокае.** У гісторыка-этнаграфічны музей прывезлі цікавую выставу расійскай мастачкі А. Войнавай-Багародзіцкай "Час анёлаў" аб сімвалах нябачнага духоўнага свету.

**Наваполацк.** Ноччу на пажары ў дачным доміку загінулі ад курэння пасля выпіўкі 34-гадовы гаспадар разам са сваёй 42-гадовай сужыцелькай.

**Докшыцы.** Больш ста не толькі мясцовых дзяцей, але і гасцей з розных куткоў Беларусі, добра адпачылі ў лагеры "Канікулы з Богам-2015" пры касцёле св. Тройцы ў раённым цэнтры.

**Полацк.** У горадзе пабываў мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел, які сустрэўся ў мясцовым пагранатрадзе з удзельнікамі X ваенна-патрыятычнага злёту праваслаўнай моладзі.

**Паставы.** З нагоды Года моладзі на гарадскім стадыёне прайшоў дзень тэлеканала АНТ з таварысцкім футбольным матчам ПМЦ-АНТ, канцэртам зорак беларускай эстрады.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Хто такі “Дзед-глыбачанін”, якога ўганаравалі ў нашым горадзе?

## Неверагодны жыццяпіс Аляксандра Антонавіча Сабалеўскага (1886-1983)



**Дзмітрый і Антон Сабалеўскія не скрываюць таго факту, што правобразам скульптурнай кампазіцыі “Дзед-глыбачанін”, фундатарамі якой яны выступілі, з’яўляецца іх родны дзед - Аляксандр Антонавіч Сабалеўскі. Дзякуючы ім на помнік было выдаткавана 1,3 млрд. рублёў.**

**Увасобіў вобраз у скульптурную кампазіцыю Аляксандр Тухто з Мінска.**

**Дык хто ж такі “Дзед-глыбачанін”, г. зн. Аляксандр Сабалеўскі, помнік якому адкрылі 3 ліпеня на дзень вызвалення нашага горада і Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў? Правільна – педагог, гісторык і краязнаўца! Вы гэта пачулі з вуснаў выступоўцаў у часе ўрачыстага адкрыцця помніка. Але яго жыццяпіс яшчэ больш захапляльны, чым Вам, спадарства, тое можа падацца! Гэта – ЛЕГЕНДА!**

*Ніжэй пададзеныя факты, узятыя аўтарам гэтага матэрыялу ў асноўным з рукапісу, які Антон Аляксандравіч Сабалеўскі, сын “Дзеда-глыбачаніна”, адмыслова напісаў для газеты “Вольнае Глыбокае”. На жаль, Антона Сабалеўскага (1926 г.нр), палкоўніка, актыўнага дзеяча беларускай дыяспары ў Маскве, ужо няма сярод нас. Восем гадоў таму ён у апошні раз наведаў Глыбокае, адрамантаваў бацькоўскі дом на Савецкай вуліцы (дом з зялёнай металадахоўкай – насупраць помніка падпольшчыкам). Рашыў пасля Глыбокага наведаць Салаўкі ... у дарозе – інсульт. У нас застаўся рукапіс... Змяшчаем цікавыя вынятківыняткі з жыццяпіса Аляксандра Антонавіча Сабалеўскага – “Дзеда-глыбачаніна”.*

### Першы настаўнік – Іосіф Сухі

Вы не паверыце! Першым школьным настаўнікам Аляксандра Антонавіча Сабалеўскага – будучага “Дзеда-глыбачаніна” – быў ніхто іншы, як бацька будучага сусветнавядомага авіяканструктара Паўла Іосіфавіча Сухога.

Па заканчэнні 2-класнай школы А. А. Сабалеўскі ў 1899 годзе на працягу трох гадоў дапамагаў настаўніку праводзіць заняткі з вучнямі першага аддзялення.

### 50 гадоў педагагічнага стажу!

Аляксандр Сабалеўскі пачаў настаўнічаць на Дзісеншчыне ў 1907 годзе і ў 1957 годзе па волі лёсу закончыў сваю працу на ніве асветы ў Глыбокім.

### У засценках польскай дэфензівы

Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі палякі імкнуліся адрадзіць Рэч Паспалітую ў колішніх гістарычных межах, але не жадалі заўважаць тут ніякіх беларусаў. Натуральна, настаўнік А. Сабалеўскі патрапіў у поле зроку польскай контрразведкі. З 15 па 24 снежня 1919 года – арышт і адбыванне ў польскай турме дэфензівы.

Снежань 1918 – 25 сакавіка 1919 года – Глыбокае пад уладай Саветаў. А. Сабалеўскі прызначаны загадчыкам Дзісенскага павятовага аддзела народнай асветы.

### З Глыбокага – у Савецкую Беларусь

З 4 лістапада 1920 года па 23 чэрвеня 1941 года ў жыцці А. А. Сабалеўскага пачынаецца **Мінскі перыяд.** Гэта быў вельмі складаны, але і найбольш плённы перыяд дзейнасці на ніве народнай асветы БССР. А. А. Сабалеўскаму пашчасціла працаваць урадоўцам Наркамасветы БССР, якую ўзначальваў выдатны беларускі навуковец, гісторык і грамадскі дзеяч У. М. Ігнатоўскі. Адпаведна пасады, якія займаў А. А. Сабалеўскі:

- інструктар беларускіх школ наркамасветы БССР;
- старшыня надзвычайнай камісіі па ліквідацыі непісьменнасці
- загадчык аддзела па ліквідацыі непісьменнасці.

### Выратаваў жыццё Язэпу Драздовічу



**Урачысты мітынг на адкрыцці скульптурнай кампазіцыі “Дзед-глыбачанін”.** *Фота Ул. Скрабатуна, 03.07.2015.*

Падчас выконвання абавязкаў намесніка загадчыка беларускага аддзела Наркамасветы БССР 14.12.1920 года А. А. Сабалеўскі сваім пісьмовым дазволам на заяве выдатнага беларускага дзеяча – мастака, археолага, этнографа Язэпа Драздовіча дапамог звольніцца ад працы настаўніка малюнка і ад’ехаць на радзіму, чым, па-сутнасці, выратаваў яму жыццё ў сумнавядомыя 1930-я гады.

### Светапогляд «Дзеда-глыбачаніна» фармаваўся пад уплывам славутых гісторыкаў Беларусі

Аляксандр Антонавіч Сабалеўскі ў 1926 годзе скончыў сацыяльна-гістарычнае аддзяленне педфака БДУ Яму, як і М. М. Улашчыку пашчасціла вучыцца ў першым беларускамоўным па духу ўніверсітэце, слухаць лекцыі, рыхтаваць семінарскія, курсавыя і дыпломную працу пад кіраўніцтвам славутых беларускіх гісторыкаў У. І. Пічэты, М. В. Доўнар-Запольскага, З. І. Даўгалы, выкладчыкаў-прафесараў А. Смоліча, І. І. Замоціна і іншых. Найбольшы ўплыў на самавызначэнне студэнта А. А. Сабалеўскага, будучага настаўніка гісторыі Беларусі зрабілі яго ўніверсітэцкія выкладчыкі-гісторыкі У. І. Пічэта, М. В. Доўнар-Запольскі і З. І. Даўгала.

### Ішоў па Дарозе Смерці Мінск-Чэрвень

У ноч на 23 чэрвеня 1941 года супрацоўнікамі НКВД БССР па ордэры на арышт, падпісаным Наркамаам НКВД БССР Л. Ф. Цанавай А. А. Сабалеўскага арыштавалі і ў той жа дзень адразу пасадзілі ў Мінскую турму.

Сам жа горад Мінск бесперашкодна бамбіла нямецкая авіяцыя, супраціву якой з боку супрацьпаветраных сіл Чырвонай Арміі не было. Горад увесь гарэў, і яго ніхто не ратаваў.

Уночы 25 чэрвеня 1941 года вязняў вывелі на турэмны двор і пачалі шыхтаваць у калоны: адну з арыштаваных “усходнікаў”, другую з “заходнікаў”.

Гэтыя дзве калоны на досвітку 25 чэрвеня 1941 года пехатой пагналі пад узброенай аховай праз вуліцу Свярдлова, міма былой кватэры Сабалеўскіх на Магілёўскую шашу ў бок г. Чэрвеня. Ноч з 25 на 26 чэрвеня 1941 года вязні пад узброенай аховай правялі на нейкіх вясковых могілках каля Чэрвеня. А днём 26 чэрвеня на вялікай паляне ў лесе загадалі ўсім вязням стаць на калені і аб’явілі, што пачнецца “суд”. Ахоўнікі падзяліліся на некалькі груп, пачалі выклікаць да сябе вязняў і патрабаваць ад іх адказаў на пытанні, якія ім не задаваліся. А. А. Сабалеўскаму проста пашчасціла, што сяржант НКВД, які быў яго “суддзёй”, з адказу даведаўся, што ён настаўнік, адпусціў яго на волю, але без якіх-небудзь дакументаў.

Праз колькі часу сям'я Сабалеўскіх адправілася пешшу з Мінска ў роднае Глыбокае, якое ўжо было пад немцамі...

### Аляксандр Сабалеўскі – рамантычны вобраз настаўніка гісторыі Беларусі

З лета 1942 года ў Глыбокім былі адчыненыя 6-месячныя настаўніцкія курсы, на якіх Аляксандр Антонавіч пачаў выкладаць гісторыю Беларусі.

Яго вучнем быў будучы беларускі эміграцыйны пісьменнік Кастусь Акула, які ў адной са сваіх кніг аповясцяў – ***“Беларусы, вас чакае зямля”*** – пакінуў вельмі цёплыя ўспаміны аб сваім настаўніку.

**З успамінаў Кастуся Акулы** *(захаваны аўтарскі правапіс):*

“... Дзьверы адчыніліся. Энэргічным крокам у клясу ўвайшоў лысы, як калена, пуцаты ў твары, сярэдняга росту, у акулярах чалавек, апрануты ў даматканую сьвітку, сінія порткі, напушчаныя на рудыя боты. Чалавек затрымаўся, зірнуў на вучняў паўз верх рамы акуляраў, падняў уверх правую руку й голасным, цьвёрдым, амаль энтузіястычным голасам сказаў:

– Жыве Беларусь!

У агульнай маўкліні пачулася хіхіканьне. Зь няўцямнасьцю зірнуў на Янука двуродны брат Уладзімер. Чалавек у даматканай сьвітцы падышоў да стала й, пільна ўглядаючыся ў вучняў, сказаў:

– Сядайце. Жыве Беларусь! Кажны дзень вы будзеце чуць такое прывітаньне, заміж “Добры дзень” ад настаўнікаў сваіх. Ваш адказ – Жыве! Я кажу: Жыве Беларусь!, а вы адказваеце – Жыве! Зразумела?

Выразны, павольны, цьвёрды, зраўнаважаны голас. Паважны, зь ледзь заўважнай лагоднасьцю, твар.

– Прашу ўстаць!

Заскрыпелі лаўкі.

– Жыве Беларусь! – голасна і ўрачыста, выцягнуўшы наперад, на ўзровень ілба, даланёй уніз, правую руку, сказаў чалавек у даматканай сьвітцы. Пару вялых галасоў адказала – Жыве!

– Ня чую!

– Жыве!

– Яшчэ мацней!

– Жыве!

– Сядайце!

Чалавек роўнамерным вайсковым крокам падышоў да вакна й спыніўся. Кляса сядзела, быццам спараліжаваная, а ён доўга пазіраў праз вакно. Па чыгунцы звольненым тэмпам каціўся даўгі ланцуг плятформаў з панакрыванымі брызентам танкамі, гарматамі, грузавымі аўтамашынамі. Чалавек адышоў ад вакна, пачаў спацыраваць перад фронтам лавак.

*Заканчэнне на стар.11*



**Сустрэча ў Глыбоцкім цэнтры культуры з нагоды 120-х угодкаў з дня нараджэння Аляксанда Сабалеўскага. Антон Сабалеўскі (з аркушом), сын - чытае даклад.** *Фота Ул. Скрабатуна, 15.10.2006.*

# Краязнаўцы сустрэліся ў Германавічах

**У Германавічах, што ў Шаркоўшчынскім раёне, 4 ліпеня адбылася краязнаўчая канферэнцыя, прысвечаная Першай сусветнай вайне.**

■ **Зміцер Лупач**

У канферэнцыі прынялі ўдзел краязнаўцы з Паставаў, Мёраў, Глыбокага, Шаркаўшчыны, Докшыц, быў і прадстаўнік Латвіі – Мікола Паўловіч прыехаў з Даўгаўпілсу. Арганізавала канферэнцыю Ада Райчонак, кіраўнік культурна-асветніцкага Цэнтра імя Язэпа Драздовіча.

У мінулым годзе споўнілася сто гадоў з пачатку Першай сусветнай вайны, але гэта тэма яшчэ слаба даследавана нашымі гісторыкамі. У савецкія часы пра падзеі гэтай вайны распавядалася вельмі мала, асноўны акцэнт рабіўся на вайну грамадзянскую, якая ішла на тэрыторыі былой Расійскай імперыі з 1918 па 1920 год. Чаму так адбывалася, тлумачыць гісторык і краязнаўца з Мёраў Вітольд Ермалёнак:

– У савецкі час гэта вайна падавалася як імперыялістычная і яе нельга было падаваць вышэй, як Вялікую Айчынную ці грамадзянскую, інакш бы яна засланіла тыя войны, якія вялі бальшавікі і ў якіх яны перамагалі. Яшчэ таму, што гэту вайну Расія прайграла. Мы ведаем пра Брэсцкі мір. Гэта цяпер некаторыя расійскія гісторыкі спрабуюць яе перапісаць, паказаць уклад Расіі. На самой справе Расія здрадзіла сваім саюзнікам па Антанце. Яна прайграла гэту вайну, нягледзячы на тое, што мела вялікае войска, самую вялікую тэрыторыю... Яна страціла ў гэтай вайне Польшчу, Прыбалтыку, Заходнюю Беларусь з Украінай... Таму па гэтай прычыне гэта вайна і замоўчвалася.

Па словах Ады Райчонак, яна абрала такую тэму канферэнцыі, бо баіцца паўтарэння ваенных падзей у наш час.

– У нашым свеце вельмі неспакойна, і ёсць пагроза развязвання новай вайны. І мне, як перажыўшай гэтыя жахі вайны, вельмі страшна. Таму наш сённяшні круглы стол, яшчэ адзін напамінак пра тое, што мы павінны змагацца за мір, каб не было гэтай страшэннай бойні, – сказала спадарыня Ада.

У 1915 годзе фронт наблізіўся да тэрыторыі нашага рэгіёна, і наша насельніцтва зведала ўсе жахі той вайны. Фронт праходзіў па тэрыторыі сучасных Пастаўскага і Браслаўскага раёнаў і насельніцтва прыфрантавой паласы пацярпела найбольш, асабліва тыя, хто апынуўся на нямецкім баку.

Падзеям той вайны прысвяцілі свае даклады Ігар Пракаповіч, Вітольд Ермалёнак, Кліменцій Кожан, Віктар Бунта, Мікола Паўловіч.

Яны распавялі пра новыя краязнаўчыя знаходкі, якія праліваюць святло на падзеі той далёкай, але страшнай вайны.

Згадваліся на канферэнцыі і іншыя тэмы. Краязнаўца Кастусь Шыталь зрабіў цікавы даклад пра беларускае школьніцтва ў нашым рэгіёне ў 20-я гады мінулага стагоддзя. Ён нагадаў, што ў гэтым годзе споўніцца сто гадоў, як у Вільні была адкрыта першая беларуская школа ў беларускай найноўшай гісторыі. Гэта было 13 лістапада 1915 года. Распавядае Кастусь Шыталь:

– У нашым рэгіёне, на Дзісеншчыне, на Браслаўшчыне ўжо праз два гады, у 1917 годзе пачалося развівацца беларускае школьніцтва. Беларускія школы адчынялі каталіцкія святары, грамадскія актывісты, і іх колькасць за кароткі час дасягнула некалькіх дзясяткаў. Насельніцтва ў міжваенны час актыўна выказвала жаданне вучыць сваіх дзяцей па-беларуску. Гэта вельмі цікавая і каштоўная старонка нашага нацыянальнага руху. На жаль, праз пазіцыю польскіх дзяржаўных уладаў спробы вучыцца па-беларуску былі перарваныя і гэта адмоўна адбілася на нацыянальнай свядомасці нашага насельніцтва.



Кастусь Шыталь.



Аўтар спытаў у Кастуся, а чаму зараз, пры незалежнай Беларусі, бацькі не хочуць, каб іх дзеці вучыліся па-беларуску:

- У 20-я - 30-я гады людзі, простыя неадукаваныя сяляне, разумелі каштоўнасць і патрэбу адукацыі на роднай мове. Нацыянальная свядомасць была больш традыцыйнай і моцнай. Калі б гэтыя імкненні не былі задушаныя, то на сённяшні час нацыянальная свядомасць у нас была значна мацнейшая. І ў людзей бы нават не ўзнікала б пытання, на якой мове вучыць сваіх дзяцей.

У апошні час падобныя канферэнцыі ладзяцца ў Германавічах кожны год. Ада Райчонак прысвячае іх памяці свайго сына Міхася Райчонка, які ў маладым узросце пайшоў з жыцця.

– Я сама з даўніх часоў цікаўлюся краязнаўствам. І я раблю тое, што не паспеў зрабіць мой сын. Я на пахаванні дала слова, што тое, што ён не дарабіў, павінна зрабіць я. А ён быў краязнаўцам ад Бога. Вось я цягну гэту лямку, – тлумачыць Ада Эльеўна.

Удзельнікі мерапрыемства вырашылі наступную канферэнцыю прысвяціць адраджэнню беларускага нацыянальнага руху на пачатку XX стагоддзя ў нашым рэгіёне.

## Ураджайнасць ягад сёлета чакаецца ніжэйшай за леташнюю

**Сёлета ўраджайнасць рэсурсаўтваральных ягад у цэлым па Беларусі прагназуецца крыху ніжэйшай за леташнюю, паведамляе Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

■ **Анастасія Салановіч,** *БелаПАН*

"У многіх раёнах Беларускага Палесся і асобных рэгіёнах Беларускага Паазер'я на фоне даволі буйнога цвіцення чарніц адзначаны высокі працэнт адпаду завязі, што адаб'ецца і на аб'ёме магчымых нарыхтовак, – заявілі ў міністэрстве. – Варта зазначыць, што па заходніх раёнах Брэсцкай і Гродзенскай абласцей пералічаныя вышэй негатыўныя з'явы так і не праявіліся".

У заходніх частках Брэсцкай, Гродзенскай, Мінскай і Віцебскай абласцей прагназуецца сярэдні ўраджай чарніц (бал 3), у астатніх рэгіёнах – сярэдні і ніжэйшы за сярэдні (бал 2-3).

Пры спрыяльных умовах надвор'я летам ураджай брусніц у Брэсцкай і Віцебскай абласцях будзе сярэднім (бал 3), у астатніх рэгіёнах – ніжэйшым за сярэдні (бал 2).

Калі летам не выпадзе неабходная колькасць атмасферных ападкаў, зніжэнне ўзроўню грунтовых водаў на алігатрофных і мезаалігатрофных балотах негатыўна паўплывае на фарміраванне ўраджаю журавін. Прагназаваная ягадная прадукцыйнасць журавін у Гомельскай, Мінскай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцях чакаецца ніжэйшай за сярэднюю (бал 2), у астатніх рэгіёнах – сярэдняя (бал 3).

Ураджайнасць журавін у Магілёўскай і Гомельскай абласцях будзе ніжэйшай за сярэднюю (бал 2), на астатняй частцы краіны – сярэдняя (бал 3).

Звесткі маніторынгу рэсурсаўтваральных відаў грыбоў і аналіз асноўных фактараў надвор'я сведчаць пра тое, што ўраджай баравіка, падасінавіка, падбярозавіка і лісічкі па ўсіх абследаваных абласцях чакаецца нізкі (бал 1), апенькі восеньскай – сярэдні (бал 2). Пры дастатковай колькасці ападкаў у летнія месяцы (асабліва ў ліпені-жніўні) ураджай усіх відаў рэсурсаўтваральных грыбоў можа павысіцца, дадалі ў Мінпрыроды.

## МТС устанаўлівае адзіныя цэны на званкі ўнутры сеткі і на нумары іншых аператараў

**Мабільны аператар МТС устанаўлівае адзіныя цэны на званкі ўнутры сеткі і на нумары іншых аператараў, паведамілі ў прэс-службе кампаніі.**

■ **Марына Носава,** *БелаПАН*




"Адзіны тарыф ва ўсе сеткі – адно з самых маштабных зменаў у тарыфікацыі паслуг за гісторыю мабільнай сувязі ў Беларусі. Яно закранае ўсе тарыфныя прапановы "МТС" – як актуальныя, так і архіўныя – і распаўсюджваецца на ўсю абаненцкую базу аператара", – зазначылі ў кампаніі.

"Гэта ліквідуе ўмоўнае дзяленне на свае і чужыя сеткі, што склалася за доўгія гады, пасадзейнічае таму, што мабільная сувязь у нашай краіне стане яшчэ больш даступнай, а таксама істотна ўзмоцніць канкурэнцыю сярод мабільных кампаній. Дзеянні аператара з'яўляюцца адказам на запыты і патрэбнасці абанентаў", – зазначыла прэс-служба.

"За гады з моманту з'яўлення мабільнай сувязі ў нашай краіне ўзаемаадносіны паміж сотавымі аператарамі і абанентамі практычна не мяняліся: даступныя цэны на ўнутрысеткавыя званкі, больш дарагія – у іншыя сеткі. Склалася своеасаблівае дзяленне на "сваіх" і "чужых". Мы разумеем, што ў эпоху мабільнага інтэрнэту неабходна ліквідаваць гэта раздзяленне паміж абанентамі і даць людзям яшчэ больш свабоды ў зносінах. Рынак застаецца, і яму патрабуюцца свежыя канструктыўныя рашэнні, – мяркуе кіраўнік дэпартамента маркетынгу "МТС" Дзяніс Цярэшчанка. – У той час калі мабільны інтэрнэт імкліва набірае папулярнасць, галасавая сувязь павінна стаць максімальна даступнай. Гэта палепшыць канкурэнтную сітуацыю на рынку, у выніку чаго выйграе абанент, паколькі атрымае больш магчымасцяў".

Мадэрнізаваныя тарыфныя планы набудуць сілу 16 ліпеня.

Адзіны тарыф не распаўсюджваецца на міжнародныя выклікі і званкі на кароткія нумары.




Савецкі плакат, прысвечаны рэкламе маргарына.

# ЗША забараняюць маргарын

**Амерыканская дзяржаўная служба кантролю за якасцю прадуктаў і медыкаментаў (Food and Drug Administration) дала прадуктовым кампаніям тры гады на тое, каб перабудавацца і цалкам прыбраць транстлушчы з рэцэптуры печыва, тартоў, пончыкаў, пірожных, чыпсаў, вырабаў у фрыцюры ды іншых.**

Транстлушчы ўтрымліваюцца ў маргарыне і танных сумесях для смажання.

Маргарын атрымліваюць шляхам гідрагенізацыі расліннага алею. У яго «забіваюць» паветра, і вадкая маса ператвараецца ў брусок. У выніку гідрагенізацыі малекулы вадароду шляхам хімічнай рэакцыі ўбудоўваюцца ў малекулы тлушчу, і апошнія губляюць сваю першапачатковую структуру, набываючы новую, якая вельмі рэдка сустракаецца ў прыродзе.

Як мяркуюць медыкі, ферменты ў арганізме не распазнаюць чужынца, а печань рэагуе на транстлушч гэтак жа, як на стрэс – выпрацоўвае больш халестэрыну, які ў выніку адкладаецца на сценках крывяносных сасудаў.

Маргарыны былі надзвычай зручныя для вытворцаў: яны значна таннейшыя за масла, а цеста з маргарына выходзіць не горшае, чым з масла.

У Беларусі транстлушчы, маргарыны застаюцца дазволенымі і масава выкарыстоўваюцца ва ўсёй фабрычнай выпечцы.

Звычайна абмежаванні, уведзеныя на амерыканскім рынку, паступова распаўсюджваюцца на іншыя краіны.

*Сяргей Гезгала,*
*Наша Ніва*

# Лячэнне можа абысціся даражэй, чым сама пуцёўка

## Прафілактыка халеры




**По дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў 2015 годзе зарэгістраваны выпадкі захворвання халерай у наступных краінах: Гана, Дэмакратычная Рэспубліка Конга, Малаві, Мазамбік, Зімбабвэ, Кенія, Нігерыя, Уганда, Гаіці, Дамініканская Рэспубліка, Індыя, Танзанія.**

■ **Л.В. Козел,**
*загадчыца аддзела эпідэміялогіі Глыбоцкага РЦГЭ*

Халера – гэта вострае асабліва небяспечнае інфекцыйнае захворванне, якое характарызуецца моцным абязводжваннем арганізма, якое пры адсутнасці своечасовага лячэння можа прывесці да смяротнага зыходу.

Узбуджальнікам захворвання з'яўляецца халерны вібрыён. Вібрыён добра захоўваецца ў вадзе, забруджанай сцёкавымі водамі, у выдзяленнях хворых людзей, на харчовых прадуктах, асабліва рыбных, малочных, у салатах. Заражэнне чалавека адбываецца пры ўжыванні інфікаванай вады, ежы і праз брудныя рукі. Халера – хвароба чалавека, які з'яўляецца адзінай крыніцай інфекцыі, які выдзяляе вялізную колькасць узбуджальнікаў у навакольнае асяроддзе. Пры гэтым забруджваюцца месца пражывання, глеба, вада, харчовыя прадукты, вадаёмы, рыба, ракі, крабы, малюскі. У нядобраўпрарадкаваныя калодзежы, сажалкі, меліярацыйныя канавы, рэкі, азёры ўзбуджальнік можа трапіць са сцёкавымі, ліўневымі, дажджавымі водамі. У вадзе адкрытых вадаёмаў, каналізацыйных сцёках узбуджальнік халеры не толькі захоўваецца на працягу 2-3 месяцаў, але і пры спрыяльных умовах (шчолачная рэакцыя і тэмпература вышэй 16$^0$С) здольны размнажацца. Таму, купаючыся ў такім вадаёме, можна лёгка заразіцца пры выпадковым заглынанні вады.

Пагібельнае дзеянне на вібрыён аказваюць высушванне, кіпячэнне (гінуць праз некалькі секунд).

Інкубацыйны перыяд захворвання (перыяд ад моманту інфікавання да з'яўлення першых клінічных прыкмет) складае ад некалькіх гадзін да 5 дзён. Характэрныя прыкметы халеры: раптоўны панос без якіх-небудзь прычын, пераходзячы ў вадзяністую дыярэю, неўтаймоўныя ваніты. Тэмпература цела пры дадзенай інфекцыі нармальная ці нават паніжаная, болі па ходзе кішачніка часта адсутнічаюць. У цяжкіх выпадках надыходзіць рэзкае абязводжванне арганізма, з'яўляюцца сударгі ніжніх канечнасцяў. Пры запазненнай медыцынскай дапамозе можа наступіць смерць.

Варта памятаць, што крыніцай захворвання выступаюць асобы, якія жывуць за межамі Беларусі ў краінах Афрыкі, Азіі, Паўднёвай Амерыкі. Таму, пасля вяртання з замежнай паездкі, калі на працягу першых 5-ці сутак з'явілася нават лёгкае растройства страўнікава-кішачнага тракта, трэба звярнуцца па медыцынскую дапамогу. Аналагічным чынам варта паступаць, калі з'явіліся сімптомы пасля наведвання Вас сваякамі, знаёмымі, якія пражываюць або якія пабывалі ў неспрыяльных па халеры рэгіёнах.

У выпадку чаканай турыстычнай паездкі ў неспрыяльныя краіны ўдакладніце ў турыстычным агенцтве, бюро, фірме, якая арганізуе паездку, ці прадугледжаны паслугі і ўмовы харчавання, водазабеспячэння, якія гарантуюць бяспеку Вашага здароўя, а таксама медыцынскае страхаванне. У адваротным выпадку лячэнне можа абысціся даражэй, чым сама пуцёўка.

Каб папярэдзіць заражэнне, выязджаючы ў краіны, неспрыяльныя па халеры, неабходна выконваць наступныя правілы:

■ не ўжывайце для піцця і бытавых мэтаў (мыцця гародніны, садавіны, цацак і іншых прадметаў) ваду з выпадковых крыніц; ужывайце ваду кіпячоную або бутыляваную;

■ ужывайце ў ежу прадукты (у тым ліку морапрадукты), якія прайшлі тэрмічную апрацоўку; салаты і мясныя стравы ўжывайце толькі ў свежапрыгатаваным выглядзе, мытую гародніну і садавіну перад ужываннем абдавайце кіпенем;

■ купайцеся ў вадаёмах, дазволеных для арганізаванага адпачынку; пры купанні не дапускайце патраплення вады ў поласць рота;

■ выконвайце правілы асабістай гігіены, мыйце рукі з вуліцы, пасля вяртання з вуліцы, перад ежай і перад падрыхтоўкай ежы.




Эпідэмія халеры ў Конга.

# На большай частцы Беларусі працягвае дзейнічаць забарона на наведванне лясоў

**На большай частцы Беларусі працягвае дзейнічаць забарона на наведванне лясоў, паведамілі БелаПАН у прэс-службе Міністэрства лясной гаспадаркі.**

Па стане на 2 ліпеня забарона дзейнічае на тэрыторыі ўсіх раёнаў Брэсцкай, Віцебскай, Магілёўскай абласцей.

У Гомельскай вобласці забаронена наведваць лясы ў наступных раёнах: Брагінскі, Буда-Кашалёўскі, Ельскі, Жлобінскі, Жыткавіцкі, Кармянскі, Калінкавіцкі, Лоеўскі, Лельчыцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Акцябрскі, Петрыкаўскі, Рэчыцкі, Рагачоўскі, Светлагорскі, Хойніцкі, Чачэрскі.

У Гродзенскай вобласці: Воранаўскі, Гродзенскі, Дзятлаўскі, Зэльвенскі, Іўеўскі, Карэліцкі, Лідскі, Мастоўскі, Навагрудскі, Ашмянскі, Астравецкі, Слонімскі, Смаргонскі, Шчучынскі.

У Мінскай вобласці: Бярэзінскі, Барысаўскі, Вілейскі, Дзяржынскі, Клецкі, Капыльскі, Крупскі, Лагойскі, Любанскі, Мінскі, Маладзечанскі, Нясвіжскі, Пухавіцкі, Слуцкі, Смалявіцкі, Салігорскі, Старадарожскі, Стаўбцоўскі, Уздзенскі, Чэрвеньскі.

*Марына Носава,*
*БелаПАН*

# Польшча забараніла чыпсы і салодкія напоі ў школьных сталоўках

Зараз да продажу будзе дазволена толькі здаровае харчаванне.

Напрыклад, салодкія булачкі заменіць цэльназбожжавы хлеб. Зменіцца і меню школьных сняданкаў і абедаў. У яго ўключаць больш рыбы, садавіны і гародніны. Праўда, не ўсе палякі задаволеныя зменамі: у выніку кошт школьнага харчавання вырасце на 40%.

*Сяргей Гезгала,*
*Наша Ніва*

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 13 ліпеня



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** **«Любовь - не картошка»**
**11.00** 90 секунд.
**11.05** **«Кружева»**
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.15** **«Слепой расчет»**. 1-я сер.
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.50** **«Слепой расчет»**. 2-я сер.
**16.00** 90 секунд.
**17.40** **«Давай поцелуемся»**
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00** **«Любовь - не картошка»**
**21.00** Панорама.
**22.00** XXIV Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». Торжественное закрытие.
**00.00** Зона Х.
**00.15** Новости.
**00.35** День спорта.
**00.45****«Ночь закрытых дверей»** (Россия).



**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55**«Модныйприговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** Фильм **«Раба любви»**.
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Без свидетелей».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет.«Фердинанд Рушиц. Небесное и земное». Фильм первый.
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Практика».**
**23.00** «Три аккорда».
**00.50** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Истребители. Последний бой»**
**10.05** Телебарометр.
**10.35** Азбука вкуса.
**11.10** Анимационный фильм **«Лови волну»** (США).
**12.30****«Крепкий орешек3:Возмездие»**
**14.40** **«Крепкий орешек 4»** (США).
**16.50** **«Истребители. Последний бой»**
**17.55** **«Отель «Вавилон»**
**19.10** **«Не родись красивой»**
**21.00** Мозговой штурм.
**21.30** Телебарометр.
**21.35** КЕНО.
**21.40** «Экстрасенсы-детективы».
**22.40** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**23.30** Комедийный сериал **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**00.00** Молодежно-комедийный сериал **«Бивер Фолс»** Великобритания . 1-я серия.
**00.50** Авантюрно-комедийный сериал **«Отель «Вавилон»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя». Информационно-аналитическая программа.
**09.25** «Большой завтрак»
**10.05** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40** **«Солдаты 7»**. Сериал.
**11.40** «Семейные драмы».
**12.35** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Документальный проект»: «Расплата за успех».
**14.35** «Другая страна». «Сделано в Китае».
**16.00** «Дорогая передача».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Документальный проект»: «Бремя богов».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Кино»: **«Наш человек в Гаване»**. Великобритания, 1959г.
**00.50** «Документальный проект»: «Затерянный мир», «Морская планета».



**07.00** **Каханне ля поплаву**, тэлесерыял
**07.50** **Mad Men. Утрапёныя II**, серыял
**08.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**09.05** Дамова з Гітлерам, д/ф
**10.05** Невядомая Беларусь. Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?, д/ф
**10.40** Назад у будучыню
**10.55** Гісторыя пад знакам Пагоні
**11.05** Загадкі беларускай гісторыі. Загадкі Лідскага замку
**11.20** Над Нёмнам
**11.40** **Цырк «Каламбія»**, драма
**16.00** **Mad Men. Утрапёныя II**, серыял
**16.45** Маналог. Прыватныя хронікі, д/ф
**18.20** Размовы эксперта
**18.40** Побач з намі
**19.00** Назад у будучыню
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.35** Блокпост «Грозны», рэпартаж
**20.00** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** 54 %
**21.45** Туга па імперыі, д/ф
**22.40** **Цырк «Каламбія»**, драма
**00.40** Студыя «Белсат»

